# Падзеі ◇ Здарэнні ◇ Факты ◇ Каментарыі ◇ Весткі

##  СВЕТ

### НОВАЯ КАНСТЫТУЦЫЯ

18 мая г.г. на ўрачыстым пасяджэнні Народнага сходу Народнай Рэспублікі Балгарыі абвешчана новая канстытуцыя краіны.

У часе ўсенароднага рэферэндума па праекту новай канстытуцыі, які адбыўся 16 мая, народ аднадумна адобрыў яе. Выступаючы з прамовaю першы сакратар ЦК БКП і Старшыня Савета Міністраў НРБ Т. Жыўкоў падкрэсліў, што адабрэнне канстытуцыі з'яўляецца выражэннем маральна-палітычнага адзінства балгарскага народа. Канстытуцыя, сказаў ён, адкрывае шырокія перспектывы для ажыццяўлення праграмы Балгарскай камуністычнай партыі.

### У ПАРЫЖЫ...

Заклік Л. Брэжнева распачаць перагаворы аб скарачэнні ўзброеных сіл і ўзбраенняў у Цэнтральнай Еўропе быў закрануты ў часе абмену думкамі між шасцю краінамі «агульнага рынку» і чатырма дзяржавамі — кандыдатамі на ўступленне ў ЕЭС (Еўрапейскі Эканамічны Саюз).

Сустрэча дзесяці краін, якая адбывалася ў Парыжы, мела характар чарговай палітычнай кансультацыі, якія праводзяцца паміж «шасцёркай» і краінамі-кандыдатамі для вырашэння спраў «сустрэчы ў вярхах» шасці краін «агульнага рынку» ў Гаазе ў снежні 1969 г.

Удзельнікі сустрэчы выказалі задавальненне ў сувязі з ініцыятывай Л. Брэжнева, якую яны разглядаюць як «жэст добрай волі».

### ...І Ў БОН

Выступаючы на пасяджэнні праўлення СДПГ (Сацыял-дэмакратычная партыя Германіі), старшыня гэтай партыі, канцлер ФРГ В. Брандт падкрэсліў, што прапанова Л. Брэжнева «заслугоўвае на вялікую ўвагу». СДПГ, сказаў Брандт, будзе «настойліва і з пачуццём рэалізму выступаць за скарачэнне войск і ўзбраення».

### ПАВЕЛІЧЭННЕ АБЯЗДОЛЕНЫХ Ў ЗША...

За два гады ўлады Ніксана колькасць абяздоленых у Злучаных Штатах павялічылася на 1,2 мільёна чалавек. Паводле даных афіцыяльнай статыстыкі, 25,5 мільёна амерыканцаў, г.зн. 13 працэнтаў насельніцтва краіны, пражывае ў беднасці, пераносячы нястачы і нягоды.

### ...І ЗБРОІ Ў АНГЛІІ

ЗША павялічваюць арсенал сваёй ядзернай зброі ў Англіі. На базу ВМС ЗША ў Холі-Лох (Шатландыя) прыбыла амерыканская ядзерная падводная лодка «Джэймс Мэдзісон», узброеная ракетамі «Пасейдон». Такім чынам, на папаўненне ракетам «Палярыс», якія ўжо знаходзяцца на амерыканскіх ваенна-марскіх базах, на англійскай зямлі зараз паявіліся больш магутныя і сучасныя ракеты «Пасейдон» з многазараднай ядзернай баегалоўкай.

### НАРКАМАНІЯ

Больш 60.000 амерыканскіх салдат у Паўднёвым В'етнаме ўжывае так моцна дзейнічаючы наркотык, якім ёсць гераін. У некаторых часцях яго ўжывае больш палавіны ваеннаслужачых. (ак)

##  БССР

### СТАТЫСТЫЧНЫ ВОБЛІК БССР

Савецкі друк падае вынікі Усесаюзнага перапісу насельніцтва. Паводле гэтых дадзеных, у межах Беларускай СССР 15 студзеня 1970 года пражывала 9 мільёнаў 2 тысячы 338 чалавек, у тым ліку: 4.137.816 мужчын і 4.864.522 жанчыны. Значыць, жанчын было больш на 726 тысяч 706 асоб. У гарадах рэспублікі пражывала крыху больш за 3 мільёны 90 тысяч чалавек, а ў вёсках — 5 мільёнаў 95 тысяч чалавек. З гэтага вынікае, што БССР мае ўсё яшчэ сельскагаспадарчы характар. Для параўнання варта ведаць, што на цяперашняй тэрыторыі БССР у 1913 годзе налічвалася няцэлых сем мільёнаў чалавек, у тым ліку толькі 14 працэнтаў гарадскіх жыхароў. Цяпер аж 22,6% састаўляе насельніцтва ва ўзросце ад 5 да 15 гадоў. Вышэйшую адукацыю мае 260 тысяч грамадзян БССР, а разам вышэйшую і сярэднюю — аж 3 мільёны 232 тысячы чалавек.

У рэспубліцы 15 студзеня 1970 года было: 7 мільёнаў 290 тысяч беларусаў (81.0% агульнага насельніцтва) і 938 тыс. рускіх (10,4%). Трэцюю па велічыні нацыянальную групу састаўлялі палякі, якіх налічвалася 383 тысячы (4,3%). Іх колькасць у параўнанні да папярэдняга перапісу з 1959 года паменшылася на 156 тысяч. У БССР пражывае 191 тысяча (2,1%) украінцаў і 148 тысяч (1,6%) яўрэяў. Іншыя нацыянальнасці склалі 0,6% агульнага насельніцтва. У час перапісу беларускую мову ўказалі ў якасці роднай мовы 6 мільёнаў 899 тысяч чалавек.

### ДАПАМОГА КАЛГАСАМ

Пачаўся гарачы час працы на палях вясковых гаспадарак Савецкай Беларусі. З дапамогай калгаснікам спяшаюць рабочыя. За апошнія паўтара года, напрыклад, прадпрыемствы горада Магілёва дапамагалі сельскім працаўнікам пабудаваць, адрамантаваць і абсталяваць звыш 100 жывёлагадоўчых памяшканняў, 19 збожжавых такоў, механізаваць працаёмкія працэсы на фермах і рамантаваць сельгастэхніку. У мінулым годзе больш 16 тысяч гараджан працавала пры ўборцы ўраджаю.

### ЗАВОД У КАЛГАСЕ

Калгас імя Дзяржынскага на Магілёўшчыне пачаў будаўніцтва буйнага высокамеханізаванага завода па вытворчасці пладовых сокаў і яблычнага цеста. Будуць там таксама сушыць садавіну, саліць агуркі, капусту і памідоры. Магутнасць завода разлічана на перапрацоўку ураджаю з 500 гектараў садоў і агародніны.

### ПІСЬМЫ ЯКУБА КОЛАСА

У літаратурны музей Якуба Коласа паступілі два арыгіналы пісьмаў народнага паэта, якія ў свой час адрасаваў ён былому дырэктару школы ў Мікалаеўшчыне І. Ю. Міцкевічу. Пісьмы гэтыя перадаў пляменнік Якуба Коласа Уладзімір Іванавіч Міцкевіч, загадчык філіяла музея на радзіме паэта. У гэтых пісьмах беларускі паэт успамінае сваё дзяцінства і праяўляе зацікаўленне развіццём яго роднай Мікалаеўшчыны і яе наваколля. Будуць яны надрукаваны ў новым зборы твораў Якуба Коласа, які рыхтуецца да друку Інстытутам літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР. (вр)

##  ПОЛЬШЧА

### У НАСТУПНАЙ ПЯЦІГОДЦЫ

17 мая г.г. адбылася ў Варшаве нарада эканамічных сакратароў ВК ПАРП, на якой старшынстваваў член Палітычнага бюро, сакратар ЦК ПАРП Ян Шыдляк. Нарада была прысвечана асноўным напрамкам пяцігадовага плана 1971—75 г. Напрамкі гэтыя першнайперш датычаць паляпшэння матэрыяльнага быту нашага грамадства, павышэння заработкаў для некаторых груп рабочых, жыллёвага і сацыяльнага будаўніцтва, а таксама прадукцыйнасці працы.

### КВАТЭРЫ

На краёвай нарадзе будаўнікоў пастаноўлена, што да 1975 года будзе пабудавана ў цэлай краіне каля 1150 тысяч кватэр. Найбольш, бо аж 800 тысяч кватэр, пабудуюць прадпрыемствы гарадскога будаўніцтва, каля 100 тысяч кватэр перададуць да карыстання рады нарадовыя. Прадбачваецца, што за гэты час 300 тысяч новых кватэр пабудуюць самі жыхары гарадоў і вёсак на ўласны кошт.

### ПЕРАД VI З'ЕЗДАМ ПАРП

19 мая г.г. з удзелам I сакратара ЦК ПАРП Э. Герка адбылося першае ўрачыстае пасяджэнне з'ездаўскай камісіі, якая была створана на IX Пленуме ЦК з думкай аб падрыхтоўцы з'езда Польскай аб'яднанай рабочай партыі. З'езд, які адбудзецца на пераломе года 1971/72, вызначыць напрамкі для далейшага гарманічнага развіцця нашай краіны, а таксама паляпшэння быту польскага насельніцтва.

### ЯШЧЭ АБ ПЯЦЕРАНЯТАХ

Гданьскія пяцераняты надалей у цэнтры зацікаўлення нас усіх. Бацькі іх — Леакадзія і Браніслаў Рыхэрты атрымліваюць штодзень найлепшыя пажаданні і павіншаванні ад людзей з цэлай краіны. Найлепшыя пажаданні шчаслівым бацькам пераказаў і старшыня Рады Дзяржавы Ю. Цыранкевіч, а канцылярыя Рады Дзяржавы пераслала на іх адрас грашовую дапамогу. На сямейнай сустрэчы ўстаноўлены імёны для дзяцей: Адам, Пётр, Раман, Агнешка і Эва.

### «ЗАЛАТОЕ ВЯСЕЛЛЕ»

У мясцовасці Касілон (Хэлмалюбэльскага павета) адбылася нештодзённая ўрачыстасць: упершыню адбылося свецкае «залатое вяселле» 70-гадовай Кацярыны і 79-гадовага Станіслава Крачкоўскіх. Сакратар Рады Дзяржавы Людамір Стасяк уручыў юбілярам прызнаныя ім Радай Дзяржавы медалі за даўгалетняе супольнае жыццё.

### ПАВЕДАМЛЕННЕ ГЎС

Галоўнае статыстычнае ведамства апублікавала паведамленне аб выніках Нацыянальнага ўсеагульнага перапісу. праведзенага 8 снежня 1970 года. Паводле паведамлення, у той дзень наша краіна налічвала 32,6 мільёнаў асоб — 15 834 тысяч мужчын і 16755 тысяч жанчын. На 100 мужчын прыпадае ў нашай краіне 106 жанчын.

### ПЛЕНУМ ГП ТККС

23 мая г.г. адбылося ў Варшаве пленарнае пасяджэнне Галоўнага праўлення Таварыства распаўсюджвання свецкай культуры (ГП ТККС), прысвечанае ўдзелу гэтай арганізацыі ў фарміраванні сацыялістычнай грамадскай маралі. (яц)

##  ВАЯВОДСТВА

### В'ЕТНАМСКАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ

Па запрашэнню Ваяводскай рады жанчын пры Ваяводскім камітэце ФАН у мінулую нядзелю прыехала ў Беласток дэлегацыя в'етнамскіх жанчын. Дэлегацыя в'етнамскіх жанчын пазнаёмілася з дзейнасцю нашай ваяводскай рады жанчын, з дзейнасцю жаночай арганізацыі ў «Фастах» і на іншых беластоцкіх прадпрыемствах. У праграме пабыўкі дэлегацыі — выезд у Гайнаўку і Аўгустоў.

### ПАДСУМАВАННЕ Ў СЕЛЬГАСГУРТКАХ.

Закончылася справаздачна-выбарная кампанія ў машынных базах і сельскагаспадарчых гуртках. Як падкрэслівалася ў справаздачах, у мінулым годзе нядрэнна развіваліся сельскагаспадарчыя гурткі, а асабліва міжгуртковыя машынныя базы. Нягледзячы на гэта, гурткі нашага ваяводства налічылі аж 11,5 млн. злотых страты. Прычынай гэтага было няпоўнае выкарыстанне машын. На адзін трактар у сярэднім у нашым ваяводстве выпала па 897 гадзін працы, калі сярэдні паказчык па краіне — 1085 гадзін. Значная частка недахопаў у працы МБМ і сельгасгурткоў заключаецца ў слабой арганізацыі працы.

### СВЯТА СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫХ БУДАЎНІКОЎ

Урачыста адсвяткавалі Дзень будаўніка будаўнікі сельскагаспадарчых аб'ектаў. На ўрачыстай акадэміі, якая адбылася ў мінулую суботу ў Голдапе, выступіў дырэктар аб'яднання сельскагаспадарчага будаўніцтва Я. Кухарчык. Ён прадставіў пяцігадовы план будаўніцтва сельскагаспадарчых аб'ектаў на вёсках і ў павятовых гарадах.

### М/С «ГАЙНАЎКА» НА ВАДЗЕ

18 мая ў гданьскай суднаверфі сышоў на ваду карабель «Гайнаўка». Гэта найбольшы і вельмі сучасна абсталяваны грузавы карабель, прызначаны для перавозкі драўніны на міжнародных трасах. Хроснай маці карабля была Анна Ляшчынская, жонка старшыні прэзідыума гарадской рады ў Гайнаўцы.

### МАЛАДЫ МАЙСТАР УРАДЖАЮ

Зыгмунт Староста, 23-гадовы хлапец з Востраў Гары ў Сакольскім павеце, перамог у краёвым спаборніцтве на званне «малады майстар ураджаю». Зыгмунт Староста скончыў сельскагаспадарчы тэхнікум у Ружанастоку і вучыцца далей завочна ў Вышэйшай сельскагаспадарчай школе ў Ольштыне. На сваёй 32-гектаровай гаспадарцы хлапец у мінулым годзе атрымаў 37 ц збожжа з гектара.

### ТУРНІР ВЕДАЎ

У мінулую суботу адбыўся ваяводскі турнір сельскагаспадарчых ведаў. Перад ваяводскім турнірам адбыліся павятовыя конкурсы, у якіх удзельнічала каля 30 тыс. чалавек. На ваяводскі конкурс прыехала 79 удзельнікаў. Першае месца ў галіне раслінаводства заняў Васіль Астапковіч з Чарэмхі, другое — В. Муха з Алексіна, трэцяе — С. Ваінскі з Бранска.

У галіне жывёлагадоўлі першае месца заняў Ю. Кеўляк з вёскі Палэлы (Сэйненскі павет), другое — Ю. Вільчэўскі з Белавусаў (Сакольскі павет), і трэцяе — Т. Цывінскі з Манюшак (Манецкі павет). (яч)

## ФОТА-КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА



### СЛАЎНЫЯ СЕЛЕКЦЫЯНЕРЫ

45 год працуюць у Беларускім навукова-даследчым інстытуце пладаводства, агародніцтва і бульбы праслаўленыя селекцыянеры муж і жонка Сюбаравы. За гэты час яны вывелі і перадалі на дзяржаўныя выпрабаванні 34 новых гатункаў яблынь, груш, вішань, чарэшань. 20 з іх ужо рэкамендаваны да раяніравання ў садах Беларусі, Украіны, Расійскай Федэрацыі, рэспублік савецкай Прыбалтыкі. За глыбокія даследванні ў галіне селекцыі пладова-ягадных культур і вывядзенне новых гатункаў Эме і Аляксею Сюбаравым прысвоена навуковая ступень доктара сельскагаспадарчых навук.

### БЕЛАРУСКІ КАПРАЛАКТАМ

По многіх тэхніка-эканамічных паказчыках гродзенскія хімікі займаюць вядучае месца ў сваёй галіне. Гродзенскі азотнатукавы завод дае многія тысячы тон каштоўных угнаенняў. А побач з ім выраслі карпусы новай галіны — вытворчасць капралактама. Гэта найбольшае прадпрыемства падобнага тыпу ў краіне. Прадукцыя цалкавіта механізавана і аўтаматызавана. Тут шырока прымяняецца прамысловае тэлебачанне і дыстанцыйнае кіраванне. На здымку: адзін з участкаў капралактамавай вытворчасці Гродзенскага азотнатукавага завода.






**Piątek, 28 maja**

8.05 Nowiny. 8.15 Dla uczniów. 8.45 Film fab. 10.00 Koncert. 10.30 Przyroda i człowiek. 11.15 Nowiny. 14.30 Program dnia. 14.35 Nowiny. 14.45 Dla uczniów. 15.30 Zdrowie. 16.00 Panorama nowin. 16.20 Zawsze na straży. 16.35 Koncert życzeń. 17.20 Film dokument. 19.00 Czas. 19.30 Film fab. 20.35 Koncert. 21.20 Nowiny. 21.30 Spartakiada.

**Sobota, 29 maja**

8.30 Nasza poczta. 9.00 Przegląd międzynarodowy. 9.15 Szkatułka muzyczna. 9.30 Fabryka traktorów. 10.00 Przed wyborami. 10.30 Dla uczniów. 11.00 Białe i czarne. 11.20 Aktorzy i role. 12.00 Uniwersytet ludowy. 13.30 Koncert. 14.15 Film fab. 15.30 Program międzynarodowy. 16.00 Nowiny. 16.05 W świecie zwierząt. 17.05 Włodarze bez masek. 18.00 Spektakl TV. 19.00 Czas. 19.30 Panorama filmowa. 21.10 Koncert. 21.40 Nowiny.

**Niedziela, 30 maja**

8.00 Kiosk muzyczny. 8.30 Dzień Chemika. 8.45 W eterze „Młodość". 10.10 Dla uczniów. 11.10 Rozmowa z ministrem. 11.25 Koncert. 12.00 Ziemia i ludzie. 12.30 Dla żołnierzy. 13.00 Turniej TV. 13.35 Tańczcie z nami. 14.05 Klub filmowy. 15.00 Program estradowy. 16.00 Nowiny. 16.05 Filmy animowane. 16.25 Eliminacje do mistrzostw Europy w piłce nożnej. Mecz ZSRR — Hiszpania. 18.15 Program rozrywkowy. 19.15 Czas. 19.45 Śpiewa Muslim Magomajew. 21.15 Nowiny.




ваць адсталасць Беласточчыны ў гэтай галіне. Пры гэтым выніку былі дасягнуты надзвычайныя, а ўжо напэўна варта было б іх распаўсюдзіць сярод як найшырэйшых кругоў людзей, якія гэтымі справамі цікавяцца.

За прыклад можна было б узяць навейшыя дасягненні. У мінулым годзе дзякуючы супрацоўніцтву ваяводскага кансерватара археалагічных помнікаў з Інстытутам гісторыі матэрыяльнай культуры ПАН былі праведзены раскопкі гарадзішча ў Гацьках (Бельскі павет). Даскана́ла захаваны ў маляўнічай даліне стромкі ўзгорак сваім нештодзённым выглядам даўно ўжо зацікавіў мясцовых жыхароў, якія пачалі называць яго «замкам» і звязваць з ім розныя легенды. Зрэшты, яшчэ ў мінулым стагоддзі звярнуў ён увагу даследчыкаў і быў зарэгістраваны як помнік Беласточчыны. Апошнія ж доследы паказалі, што помнік гэта не абы які. Адкрыты на ім сляды прабывання чалавека, паходзячыя з розных эпох. Менавіта дзякуючы прабыванню тут чалавека натуральны калісьці ўзгорак атрымаў сваю сучасную, прыкоўваючую зрок, форму.

Сярод найстарэйшых адрозніваецца яма, якая была знойдзена амаль дакладна ў цэнтры гарадзішча. У гэтай яме, прысыпаныя пяском і прываленыя літым пластом чыстай гліны, ляжалі фрагменты гліня́нага пасуду, у асноўным вялікіх місак і, што найважнейшае, значная колькасць касцей жывёлы, у тым ліку некалькі экземпляраў цэлых галёнак, якія ляжалі ў такім ідэальным парадку, як быццам бы былі складзены ў яму разам з пакрываючым іх мясам. Завалены складзік з мясам, ці, што яшчэ больш верагодна, сляды ахвяры, зложанай даўнейшымі асаднікамі бліжэй неакрэсленым багам, каб былі да іх больш прыхільныя? Магчыма, далейшыя доследы змогуць высветліць гэтую загадку. Пакуль што ўдалося ўстанавіць, што гэты нештодзённы аб'ект паўстаў каля 2300 гадоў таму назад. Вядома таксама, што пакінуў яго народ, у культуры якога, вядомай нам перш за ўсё дзякуючы спосабу фармавання і аздаблення адыгрываючых у той час вялікую ролю ў штодзённым жыцці гліня́нага посуду, адлюстроўваліся матывы, вядомыя тады на суседніх тэрыторыях Мазоўша, падкрэсленыя аднак выразна ўплывам тэрыторыі сучаснай Літвы і Беларусі.

Мінулі доўгія стагоддзі, пакуль у ваколіцы з'явіліся новыя асаднікі, якія пакінулі на ўзгорку ў Гацьках больш трывалыя сляды свайго прабывання. Было гэта VI стагоддзе, перыяд надзвычай бурлівы ў жыцці многіх славянскіх плямёнаў, калі яны, імкнучыся на поўдзень спусташалі землі Візантыйскага царства і пачыналі там асядаць назаўсёды, робячы пачатак будучай славізацыі большасці Балканскай паўвыспы.

Немалая частка славян засталася аднак на месцы, ведучы спакойнае жыццё працавітых сялян, і з цяжкасцю даходзіла да іх спозненае рэха далёкіх здарэнняў. Іх культура не была яшчэ ўпрыгожана здабытым дабром і моднымі навінкамі з-над Дунаю; была яна больш свойская, суровая. Да іх якраз залічаліся прадстаўнікі невядомага племені, якія, выбраўшы сабе гацькаўскі ўзгорак, пабудавалі на ім невялікі гарадок, агароджаны абаронным плотам з гарызантальна ўкладзеных бярвенняў. Жыццё канцэнтравалася тут у хатах, цесна акружаючых пусты майдан. У іх папялішчах знайшлі мы шмат прадметаў, дазваляючых уявіць сабе тагачасны штодзённы быт і гаспадарку. Таксама, як і ў іншых славянскіх плямёнаў, сельская гаспадарка і жывёлагадоўля з'яўляліся тут падставовай крыніцай здабывання сродкаў жыцця. Сярод іншых заняткаў звяртае ўвагу пачэснае месца ювелірнай прадукцыі, а перш за ўсё жаночых аздоб з бронзы. Здзіўляе таксама вялікая колькасць гліняных праслікаў, якія служылі цяжарам для драўляных верацён, ужываных у той час замест калаўрота для скручвання нітак. Магчыма, тагачасныя жанчыны былі страснымі прадзільшчыцамі?

Сапраўднай загадкай аднак з'яўляюцца часта выступаючыя збітыя кавалкі абвугленага проса ў выглядзе кашы. Аб просе вядома, што яно не толькі адыгрывала ў той час у многіх славянскіх плямёнаў ролю галоўнай зерневай расліны, але і амаль да нашага перыяду займала пачэснае месца ў розных абрадах, асабліва маючых запэўніць добры ўраджай. Калі ж дадаць да гэтага яшчэ прысутнасць значнай колькасці дробных адламкаў моцна спаленых касцей жывёлы, маючых цалкам іншы выгляд, чым звычайныя кухонныя адпады, дык зусім верагодным мог бы здавацца той факт, што ў гарадзішчы адбываліся абрады, часткай якіх было складанне на ахвяру жывёлы і пляцкаў з проса. Магчыма, быў гэта не толькі пасёлак і месца працы, але і цэнтр паганскага культу? Ёсць надзея, што будучыя доследы дазволяць даць на гэта нейкі больш станоўчы адказ. Ужо цяпер аднак можна сцвердзіць існаванне тут немшматлікіх рыс жыцця і культуры, супольных з абшарамі Мазоўша і з тэрыторыямі сучаснай Беларусі і Украіны.

Пасля даволі доўгага перапынку, ужо ў XI—XII ст. ст. узгорак ізноў аджыў, становячыся на гэты раз месцам даволі інтэнсіўных нівеліровачных земляных работ, у выніку якіх атрымаў сваю сучасную, цяжка даступную форму. Услед за імі не наступіла аднак ажыўленае засяленне. Магчыма, хаваліся тут толькі ў выпадку небяспекі жыхары навакольных асад. Адсюль вынікае ўмеркаваная колькасць помнікаў з гэтага перыяду. Месца гэтае аднак нязменна прыцягвае ўвагу чалавека. Зачаравала яно не толькі нас. Дык маем надзею, што будучыя адкрыцці будуць не менш цікавыя, чым да гэтага часу.



*Археолагам памагалі мясцовыя хлопцы.*

ВОЙЦЕХ ШЫМАНСКІ

фота аўтара




Апрача гаспадарчай дзейнасці, ГС-ы і ПЗГС Гайнаўскага павета пашыраюць культурна-асветную працу. На тэрыторыі пяці гмінных спулдзельняў дзейнічае 10 клубаў гаспадара і 4 цэнтры «Сучасная гаспадыня».

Каб палепшыць і пашырыць дзейнасць гэтых пляцовак, у мінулым годзе падпісана пагадненне паміж Праўленнем ПЗГС і аддзелам праўлення БГКТ у Гайнаўцы. Пагадненне датычыць супрацоўніцтва ў галіне культурна-асветнай дзейнасці на вёсцы. Змест пагаднення праўленне ПЗГС разаслала па ўсіх ГС-ах. Аднак паводле даных павятовых улад, кіраўніцтва пасобных спулдзельняў не зусім зацікавілася поўнай рэалізацыяй гэтага пагаднення. Здаецца, што таксама самі гурткі БГКТ павінны прадстаўляць больш канкрэтных прапаноў.

У мэтах папулярызацыі сучасных метадаў гаспадарання сярод моладзі, якая застаецца на вёсцы, арганізаваны калектывы маладых гаспадароў (ЗМР). Колькасць іх пакуль што невялікая, але важна тое, што колькасць ЗМР-аў павялічваецца. У мінулым годзе ў Гайнаўскім павеце налічвалася 6 ЗМР-аў са 102 удзельнікамі, у той час калі ў канцы 1969 года было іх толькі 4. Прадбачваецца, што да канца цякучага года кожная ГС павінна мець прынамсі па 2 калектывы маладых гаспадароў. Зразумела, асноўная задача ў арганізацыі новых калектываў прыпадае тут ГС-ам, ЗМВ і сельскагаспадарчай службе. Аднак не бачу перашкод, каб да арганізацыі ЗМР-аў уключыліся гурткі БГКТ. Датычыць гэта асабліва Гайнаўшчыны, дзе многія гурткі таварыства маюць моцны арганізацыйны ўзровень. А нават і там, дзе арганізацыйна гурток БГКТ стаіць слабей, можа ён смела ўключыцца да вучобы, якая праводзіцца ў ЗМР-ах. Шкада толькі, што гэтая справа не знайшла месца ў падпісаным пагадненні. Аднак няма ніякіх перашкод, каб гэтай справай дапоўніць пагадненне.

Іншай галіной культурна-асветнай дзейнасці, якой займаецца гайнаўская спулдзельчасць, з'яўляецца спорт. Праявай гэтай дзейнасці з'яўляецца матэрыяльная дапамога гурткам ЛьЗС. ГС-ы і ПЗГС бясплатна даюць транспарт на выезд эльзэтэсаўскіх спартсменаў, прызначаюць дробныя ўзнагароды. Трэба падкрэсліць, што ў цякучым годзе ПЗГС у Гайнаўцы ўзяў пад апеку секцыю веласіпедыстаў ЛьЗС «Спулдзельца».

На жаль, не многа добрага можна сказаць аб працы цэнтраў «Сучасная гаспадыня». Проста не апраўдалі яны надзей. Агульна кажучы, праявілі яны замала клопатаў у галіне арганізавання і папулярызацыі прынцыпаў рацыянальнага гаспадарання ў вясковых сем'ях. А ўсё таму, што цэнтры «Сучасная гаспадыня» не патрапілі наладзіць цеснага супрацоўніцтва з жаночым актывам. Зразумела, і тут наша таварыства можа дапамагчы, пасылаючы сваіх актывістак для разгортвання працы сярод жанчын.

Адным словам, пры адпаведным падыходзе да справы амаль у кожнай галіне дзейнасці ГС гурткі нашага таварыства змогуць знайсці сваё месца і адыграць там канструктыўную ролю.

Калі я падумаў пра нейкую нараду ў гэтай справе, адразу ўздрыгнулася рука, маем жа іх так многа. Але гэтым справам можа сапраўды трэба было б прысвяціць нараду з нашым бэгэкатоўскім актывам? Ставячы іншым і сабе такое пытанне, здаю сабе справу, што такая нарада магла б адбыцца ў вузкім кругу актыву і быць прысвечана канкрэтным справам, напрыклад, ЗМР ці цэнтрам «Сучасная гаспадыня». Лічу адначасова, што магла б яна прынесці многа карыснага.

*А. Лабановіч*

# У МІЛЕЙЧЫЦКАЙ ◆ ◆ БІБЛІЯТЭЦЫ

Грамадская бібліятэка ў Мілейчыцах, Сямяціцкага павета, існуе ад 1947 года. Налічвала яна тады ўсяго 260 кніжак. У 1959 годзе прыбыло ёй каля 3 тысяч кніжак. Зараз бібліятэка налічвае 701 чытачоў і 6413 кніжак, у тым ліку 215 кніжак на беларускай мове і 184 кніжкі на рускай мове. Найбольш чытачоў мае яна ва ўзросце да 14 гадоў жыцця — 291 асоба, ва ўзросце да 20 гадоў — 219, ва ўзросце да 30 гадоў — 120 і ва ўзросце звыш 30 гадоў — 68. У мінулым годзе чытачы прачыталі агулам 10269 кніжак. Найбольш чытаюць Веслаў Пэжык, Мікалай Яновіч, Ірэна Гладская, Юзэф Тынкевіч, Галіна Матэюк і Павел Васілеўскі.

Бібліятэка мае 12 бібліятэчных пунктаў, з якіх найлепш працуюць пункты ў Паканеве — калёніі (вядзе яго Люцына Зелянеўская), у Грабарцы (вядзе Міраслава Дубец) і ў Мядзвежыках (вядзе Надзя Саўчук).

Бібліятэкаршай працуе Галіна Смаляга. Працу ў мілейчыцкай бібліятэцы пачала яна адразу пасля заканчэння вучобы ў бібліятэчным ліцэі ў Супраслі і працуе ў ёй нязменна ўжо 12 гадоў. Пані Галіна Смаляга вядзе гурток любіцеляў бібліятэкі і арганізуе вечарыны казак для дзяцей. Мілейчыцкія чытачы ў колькасці 201 асобы ўдзельнічалі ў турніры ведаў на сельскагаспадарчыя тэмы, які адбыўся ў гэтым годзе ў грамадзе. Пераможцы грамадскіх элімінацый Рышард Мядушэўскі і Галіна Матэюк прымуць удзел у павятовых эліманацыях. У чытальніцкім конкурсе «Выбіраем свайго героя» прымае ўдзел 60 дзяцей. Зараз паглыбляюць яны свае веды аб выбраным героі, а таксама выконваюць альбомы. У конкурсе «Залатога коласа» прымае ўдзел 65 чытачоў.

У мілейчыцкай бібліятэцы прыемна і ўтульна. Сцены ўпрыгожваюць новыя сценгазеты і партрэты. Можна тут паслухаць радыёперадачы і сучасныя мелодыі, паколькі ў бібліятэцы ёсць радыёпрыёмнік і адаптар. Можна таксама пачытаць прэсу, якой тут багаты выбар — 29 загалоўкаў.

*Янка Цялушэцкі*

# ТУРЫСТЫЧНАЯ ◆ ◆ ГАЙНАЎШЧЫНА

Да сёлетняга турыстычнага сезона рыхтуецца на Гайнаўшчыне перш за ўсё Гайнаўка і Белавежа. Невыпадкова, што з кожным годам прыязджае сюды ўсё больш нашых польскіх і замежных турыстаў. У мінулым годзе наведала Белавежу 90 тысяч асоб, у тым ліку 1856 замежных гасцей з 43 краін. У той самы перыяд Гайнаўскае прадпрыемства драўніннай прамысловасці наведала 9 тысяч чалавек. Гасцініцы і начлежныя дамы заўсёды маглі запэўніць дастатковую колькасць месц, якіх Белавежа мае 600, а Гайнаўка — 760. Але значна павялічылася колькасць месц у сталовых. У бягучым турыстычным сезоне ў Белавежы будзе адкрыта больш кіёскаў з марожаным, больш сатуратараў з газіраванай вадой, а таксама ражно для смажэння каўбасы. Гайнаўская ВСС адкрые дадаткова 4 кіёскі з марожаным і ражно для смажэння каўбасы. Між іншым, кіёскі са спажывецкімі артыкуламі і газіраванай вадою будуць адкрыты ў такіх месцах у Белавежы, як на палянцы непадалёк асады Звярынец і побач паказальнага рэзервата зуброў. Турысты будуць лепш забяспечаны такімі спажывецкімі артыкуламі, як марская рыба, кураціна, яйкі, малочныя напіткі, масла, фрукты і г.д. З тае пары, калі ў Гайнаўцы ў гэтым годзе будзе адкрыта другая пякарня, дастаткова будзе свежага хлеба. Апрача таго, большая ўвага звяртаецца на павелічэнне асартыменту сувеніраў і турыстычных рэчаў, будзе арганізаваны вулканізацыйна-слёсарскі варштат у Белавежы, будуць развешаны дадатковыя інфармацыйныя дошкі, ПТТК вызначыць месцы для распальвання кастроў на турыстычных шляхах, будзе таксама выданы даведнік пра Гайнаўшчыну.

Больш атракцыйнай будзе сёлета Гайнаўка. Яшчэ ў гэтым годзе адкрыецца тут Гістарычны музей гайнаўскай зямлі. Варта дадаць, што на гарадскіх клумбах, рабатах і ў даніцах пасаджана больш 50 тысяч розных кветак.

Янка Цялушэцкі

 

# З ЯНАМ АНАЦІКАМ ПРА ЯГО ШЧАСЛІВУЮ ЗОРКУ

Пачатак на стар. 1

— Ён звязаны з тым здарэннем, калі я папаў у акружэнне ў вёсцы Кузава. Там быў такі момант, калі я зусім знямажаны, непрытомны, упаў. Ачнуўшыся, пайшоў у Дубна. Помню, была марозная і звёздная ноч з 1 на 2 лютага. Я глянуў на неба. Было ўсеяна зоркамі. Спытаў сябе, каторая з іх мая, шчаслівая, што памагла мне выйсці цэлым.

— Каму вы прызначаеце сваю кніжку?

— Найперш маладым. Ім трэба расказаць пра нашы часы, пра нашы гады маладыя.

— Вы сустракаецеся з моладдзю, расказваеце пра сваю партызанскую дзейнасць. Як прымаюць, што іх найбольш цікавіць?

— Сітуацыі і здарэнні найбольш небяспечныя.

— Прыгода?

— Так, прыгода, якраз прыгода. Яе давай маладым як найбольш! Я стараюся пры гэтым звязваць дні нашай прыгоды з цяперашнім часам. Кажу, што цяпер геройства і самаахвярнасць гэта добра вучыцца, аддана і самаахвярна працаваць. Хачу расказаць вам пра адно здарэнне з маіх сустрэч. Было аднойчы перада мной спатканне з моладдзю ў лагеры на аўгустоўскіх азёрах. Я заехаў туды. Кіраўнік лагера пачаў, перапрашаючы, мяцца, што мо не надта спатканне выйдзе, бо моладзь, вядома, не вельмі цікавіцца, а тут лета, сонца і таму падобна. Пасля абеда сабраў ён лагер у кучу. А сонца фактычна грэла нелітасціва. Я сказаў да моладзі: а мо мы сустрэнемся з вамі вечарам, шкада сонца і возера. Яны радасна ўсхапіліся і пабеглі на каякі. Сабраліся мы зноў пасля вячэры. Распалілі касцёр. Мне як госцю паставілі стол, які я загадаў забраць. Супольна расселіся мы з моладдзю пры кастры, на зямлі... Паплылі гадзіны. Ведаеце, ніхто не кашлянуў... Вяртаўся тады я дадому а другой гадзіне ўночы.

— Значыць, не такая моладзь нячулая, як некаторым здаецца.

— Хачу сказаць, што моладзь чулая, трэба толькі ўмела. Варта працаваць з ёю, паказваць ёй дарогі вайны і барацьбы іхніх бацькоў.

— Ёсць у вашай кніжцы такі фрагмент: лістапад 1943 года. Ноч. Дождж. Вы пасля двух год вяртаецеся ў родную вёску. Вы партызан. Асцярожна заглядаеце ў акно вашай хаты. Маці худымі пальцамі прадзе кудзелю. Адразу сцвярджаеце, як маці за два гады вайны пастарэла. Па вас плыве дождж са стрэхі... Маці раптам падымаецца з лавы, падыходзіць да акна... Прысланяе рукою вочы і глядзіць у цемень. Выглядае сына. А вы за тым акном...

— Ці жывуць яшчэ ў той вёсцы Сыпні Новыя ў Сямяціцкім павеце вашы бацькі?

— Мама толькі. Ёй 85 год.

— Вы называеце ў кніжцы аж пяць асоб Тэрлецкіх. Ці гэта сям'я?

— Не, сям'я — толькі Соня і яе сыны з вёскі Шэшылы, а Крыстына з мужам — гэта іншыя Тэрлецкія.

— Вяртаючыся на Беласточчыну, вы найперш застукалі ў дзверы Соні Тэрлецкай. Так трэба было?

— Не. У мяне былі прозвішчы некаторых людзей, але Соні Тэрлецкай не было. Нікога з тых, чые прозвішчы былі, я не знайшоў. Да Соні зайшлі мы неяк нечакана, шукалі проста людзей, антыфашыстаў. Я ведаў, на Беласточчыне такіх нямала.

— Можам тады сказаць, што прывяла вас на Беласточчыну і тут вам свяціла ваша шчаслівая зорка. — А цяпер у мяне пытанне іншага характару. На баявых дарогах вы спатыкалі старых і новых знаёмых. Многа іх было з нашай Беластоцкай зямлі. На баявых дарогах вайны радзілася дружба людзей — таксама палякаў з беларусамі. Першымі спатканымі былі Панфілюк з Орлі і Стасё «Войт» з Гайнаўкі...

— Так, гэта праўда. Хачу тут прыпомніць, што са мной на Беласточчыну з Савецкага Саюза прыйшла група чыста польская, 300 чалавек на чале з Лешам — потым міністрам. Успомню яшчэ Юзэфа Алейніцкага з Руткі, даваеннага ЗСЛь-оўца, Томаша Грабажа з Цеханоўца, камуніста, нашага партызанскага супрацоўніка, загінуў ад бандаў, інжынера Вэндэ з Беластока — нашага незамянімага супрацоўніка. Ён рабіў такія дыверсіі немцам, што ў галаве не змяшчаецца, а так умела, што ніколі не маглі дайсці, хто.

— Акрамя спамянутай кніжкі вы выдалі яшчэ інфарматар па месцах барацьбы і мук на Беласточчыне.

— Хачу паказаць моладзі тое, што нам пакінулі немцы, бо таго нельга нам ніколі забыць.

— А мо яшчэ што маеце на творчым варштаце?

— Хацелася б напісаць кніжку пра гады 1939—41. Мне добра вядомы механізм германскай разведкі ў той перыяд, накіраваны супраць СССР. Граніца тады стаяла на Бугу і гэтая рака была важным звяном у той варожай рабоце, шлях якой ішоў з Берліна праз Варшаву, Сулеювэк — Беласток — аж у Мінск. Маю ўжо нават загаловак «Павуціна над Бугам».

— Ужо бачу надзвычай цікавую кніжку пра гісторыю яшчэ невядомую. Хутчэй бярыцеся за пісанне!

— Я вам прызнаюся, што некалькі раздзелаў ужо напісаў.

— Дык віншую і жадаю хутчэй кніжку скончыць. Чакаем!

*Размову вяла*
*Вера Леўчук*

# СПУЛДЗЕЛЬЧЫЯ ЭМЫ

Вядома, што без даху над галавой, як без хлеба і вады. Калі ўяўляем сабе шчаслівую, прыкладную сям'ю, дык заўсёды бачым яе пад супольным дахам, ва ўтульных чатырох сценах кватэры.

Нездарма тады паляпшэнне жыллёвых умоў для ўсіх грамадзян нашай краіны стала адной з асноўных, першапланавых задач, якія паставіла сабе і грамадству новае партыйнае і дзяржаўнае кіраўніцтва.

Асноўным пастаўшчыком жылля сталіся ў нас жыллёвыя спулдзельні. На кожныя 100 кватэр, якія ў апошніх гадах будаўнікі аддавалі ў карыстанне, аж 85 паходзіла са спулдзельчага будаўніцтва.

Каб сабраць у адно месца ўсе спулдзельчыя жылыя дамы з цэлага Беластоцкага ваяводства, а перш за ўсё — з самога Беластока, дык утварыўся б даволі прасторны горад, у якім свабодна змясцілася б усё цяперашняе насельніцтва Бельска, Гайнаўкі, Саколкі і Сямяціч — ды яшчэ засталося б крыху месца для жыхароў Дубровы.

Спулдзельчых «э-М-аў» (М-2, М-3, М-4, М-5), вядома, найбольш будуюць у ваяводскім цэнтры. Тут самастойную, шырокую і ўжо шматгадовую дзейнасць разгортваюць аж 3 розныя жыллёвыя спулдзельні: «Беластоцкая», міжзаводская «Захэнта» і спулдзельня чыгуначнікаў «Родзіна колеёва». Затым штораз узнікаюць спулдзельчыя згуртаванні для пабудовы прыватных жылых асабнякоў.

У выніку дзейнасці гэтых спулдзельняў выраслі ў Беластоку асобныя новыя, прасторныя, прыгожыя жылыя кварталы. Гаспадары горада ля ракі Белай з гордасцю паказваюць сваім гасцям і наведвальнікам пасёлкі імя «Тысячагоддзя», пры вуліцы Міцкевіча, «Антанюкоўскае», на Пятрашах і ля вуліцы Пяста. Гэтыя спулдзельчыя кварталы сталі аздобай цяперашняга Беластока. Параўнанне з суседнімі, яшчэ даваеннымі часткамі горада дае пераканаўчае ўяўленне аб усіх гэтых пераўтварэннях, якія здзейсніліся ў нас за гады народнай улады.

Сонечную радасць прыцямняюць аднак цёмныя хмары патрэб, якія ў гэтай галіне з кожным годам усё нарастаюць.

На працягу апошніх дваццаці год насельніцтва Беластока павялічылася на нейкіх 100 тысяч чалавек. Сярод новых жыхароў горада найбольш, зразумела, тых, каму ўдалося вырвацца з бедных і перанаселеных вёсак Беласточчыны. Нездарма ў пасёлку імя «Тысячагоддзя» ёсць асобныя жылыя карпусы, якія атрымалі неафіцыйную мянушку «Канюкі», «Рыбалы» ці назвы іншых вёсак.

Каб трывала і моцна ўкараніцца ў ваяводскім цэнтры, неабходна неяк раздабыць кватэру. Дык чарга да спулдзельчых «э-М-аў» расце з кожным годам. Паводле афіцыйнай інфармацыі кіраўніцтва спулдзельчага жыллёвага будаўніцтва, члену жыллёвай спулдзельні, які накапіў на ашчаднай кніжцы неабходны ўзнос (15—30 тысяч злотых), прыдзецца цяпер чакаць сваёй чаргі на пажаданую кватэру аж 9 год.

Кіраўнікі беластоцкага аддзела Цэнтральнага саюза спулдзельняў жыллёвага будаўніцтва бездапаможна раскладаюць рукі. Калі б мераць, гавораць, датыхчасовымі тэмпамі спулдзельчага будаўніцтва, дык каб уладкаваць патрэбы ўжо зарэгістраваных членаў і кандыдатаў у члены, трэба было б будаваць на працягу нейкіх двух пяцігодак. А лік кандыдатаў на спулдзельчыя «э-М-ы» расце пастаянна, бо кожны месяц дзесяткі новых людзей рашаюцца прыступіць да спулдзельні.

Дык што? Безвыхаднае становішча?

Безвыхаднага становішча ніколі не



*Жыллёвы раён Тысячагоддзя ў Беластоку.* *Фота Цаф — Сянько*

Беларуская літаратура — Аляксандр Баршчэўскі

# ПЕРЫЯД ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

ЛЕТАПІСЫ. ЧАСТКА III.

Сёння зоймемся творам гістарычнага жанра, які будзем умоўна называць «Пашыранай хронікай». З'яўляецца ён адным з пашыраных летапісных зводаў (рэдакцый) змест якога складаецца з запісаў некалькіх аўтараў. «Пашыраная хроніка» ахоплівае больш пяці стагоддзяў гісторыі Кіеўскай Русі, Беларусі і Літвы. Паказвае яна многія падзеі з гісторыі гэтых народаў ад пачатку існавання Русі да 1447 года. «Пашыраная хроніка» складаецца з некалькіх летапісных твораў, якія выступалі самастойна або ў складзе іншых летапісаў у Русі або ў Вялікім княстве Літоўскім. Складовымі часткамі «Пашыранай хронікі» з'яўляюцца: смаленская хроніка, Пахвала Вітаўта, летапісец вялікіх князёў літоўскіх.

У «Пашыранай хроніцы» знаходзім даволі багатыя звесткі пра Кіеўскую Русь. Аўтар хронікі выкарыстаў у сваім творы некалькі ўсходне-рускіх летапісаў. Выкарыстаў іх вельмі спецыфічна. Стараўся надаць весткам аб Кіеўскай Русі як найбольш лаканічны характар. З гэтай мэтай рэдукаваў факты, падзеі і гады, ды фіксаваў у сваім творы толькі праблемы, па яго думцы, найважнейшыя. Можам затым гаварыць аб упрошчанасці і недакладнасці многіх звестак аб Кіеўскай Русі.

Нас, зразумела, не цікавяць звесткі, звязаныя з старарускай парой, мы хочам ахарактарызаваць толькі тыя эпізоды «Пашыранай хронікі», якія звязаны з Вялікім княствам Літоўскім. Варта адзначыць, што размяшчэнне беларускага і літоўскага матэрыялу ў хроніцы не адзначаецца стройнасцю і храналагічнай паслядоўнасцю. І так, пачынаючы ад канца 20-тых гадоў XV стагоддзя аўтар займаецца падзеямі, звязанымі з Вялікім княствам Літоўскім. Аднак пад гадамі 1444—1446 зноў змяшчае інфармацыі аб усходнерускіх землях. Гэта аднак мала істотныя дэталі, якія не перашкаджаюць чытачу выловіць тыя моманты, якія звязаны з Вялікім княствам Літоўскім.

Аўтар пачынае літоўска-беларускія інфармацыі ад вядомых ужо нам фактаў, звязаных з запланаванай каранацыяй Вітаўта. Новым элементам у гэтым апісанні з'яўляецца абвінавачванне палякаў, якія нібыта не прапусцілі карону, якую везлі Вітаўту з Нямеччыны. З гэтай прычыны каранацыя Вітаўта не магла адбыцца.

Найбольшую аднак увагу прысвяціў аўтар падзеям, якія мелі месца ў Вялікім княстве Літоўскім пасля смерці Вітаўта. У гэты час на пагост вялікага літоўскага князя быў пакліканы брат польскага караля Ягайлы Свідрыгайла. Цяжка зразумець, чаму Свідрыгайла павёў антыпольскую, а тым самым антыягайлаўскую палітыку. Абапіраўся ён перш за ўсё на беларускіх вяльможаў, рабіў прыязныя жэсты ў адрас Маскоўскай Русі. Вынікам такой палітыкі была пагроза для польска-літоўскай уніі. Феадальныя прапольскія сілы прыступілі да контратакі. Ужо ў 1432 годзе бачым на віленскім княскім пагосце новага стаўленніка Ягайлы Сігізмунда Кейстутавіча, які быў братам памёршага Вітаўта. Свідрыгайла аднак не думаў паддавацца. Моцна акапаўся ён у беларускіх і ўкраінскіх землях. Пачалася зацяжная вайна. Летапісец выразна недалюбліваў Свідрыгайлу, яго сімпатыі былі па баку Сігізмунда. Таму ахвотна апісвае ён у хроніцы тыя факты, якія сведчылі аб дзікаватасці ў поглядах і ў чынах Свідрыгайлы. Сведчаннем гэтага, паводле аўтара, было тое, што Свідрыгайла заняў і спаліў Крэў і Мінск, а яго людзі ўтапілі ў Дзвіне князя Міхала Гальшанскага і спалілі на кастры мітрапаліта Герасіма. Аднак у бітве пад Вількамірам войскі Свідрыгайлы былі канчаткова разгромлены войскамі Сігізмунда. У гэтым факце беларускі летапісец бачыць палец божы, які ўключыўся ў барацьбу паміж князямі і памог перамагчы справядліваму Сігізмунду. А прадстаўленыя падзеі родзяць у нас пэўныя супярэчлівыя рэфлексіі. Чаму Сігізмунд — брат стойкага барацьбіта за незалежнасць Вялікага княства Літоўскага Вітаўта быў больш прапольскі, чым брат польскага караля Ягайлы — Свідрыгайла, які адзначаўся тэндэнцыяй праpускай? Бадай не знойдзем на гэтае пытанне рацыянальнага адказу. У гісторыі, мабыць, многае залежыць ад таемнай метафізікі чалавечага характару, а не толькі ад дыялектыкі грамадскіх адносін.

Дададзім толькі, што кіруючыя колы Вялікага княства Літоўскага нядоўга



 

## ЗЯМЛЯ І ЛЮДЗІ

# ЗА „БАХТ-БАРІ”

(КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З КАЛЫМЫ)

Дзень добры, шаноўная рэдакцыя!

Калі вы ў першым лісце ўспомнілі пра рубрыку «Зямля і людзі», я нейк не звярнуў увагі. А нядаўна паўторна чытаў некаторыя артыкулы ў «Ніве» і ўспомніў, што можа землякам будзе цікава трошкі пабачыць і пачуць аб Калыме — краіне, многія мясціны якой носяць імёны беларусаў і палякаў (хрыбет Чэрскага, пасёлак Чэрскі ў нізоўях Калымы, мыс Анацэвіча і г.д.). Хацеў адразу пісаць, а затым перадумаў — лепш зраблю серыю малюнкаў, а да іх — невялікі тэкст. І так, пачну са сталіцы. Магадан, хоць і знаходзіцца вельмі далёка ад цэнтра, але вельмі чысты, вельмі сучасны і нават мае сваё аблічча. Ёсць свой тэатр імя Горкага, інстытут, дзе навучаюцца будучыя настаўнікі з розных народнасцей Паўночнага Усходу: якуты, чукчы, эвены і інш.

Углыб мацерыка вядзе славутая траса «Калымская траса — Магадана душа». Па ёй Магадан звязаны з раёнамі «Залатой Калымы» і далей — з Якуціяй.

Уявім, што мы едзем у аўтобусе ля Ансунчантану, што гэты раён бадай самы малады, ды і гаворка аб ім будзе ніжэй. Да Ансунчана — 570 км. З іх толькі палова па асноўнай трасе. Далей ідзе свая траса, больш цікавая, больш небяспечная і непрыемная. Справа ў тым, што на ёй вельмі многа перавалаў, дарога вузкая і часта ідзе над крутым адхонам, над імклівымі рачулкамі і рэкамі. На ўсе 570 км шляху — 8—9 пасёлкаў, з якіх на Ансунчанскую трасу прыходзіцца 3. Усе яны пабудаваны ў першыя гады асваення раёна — у пачатку 40-ых. Прырода на трасе — горы і рэдкалессе лістоўнічнае, якое ў рачных далінах пераходзіць у тайгу і тапалёва-чазеніявыя гаі, а пры пад'ёме ў горы — знікае зусім, толькі дзе-ні-дзе — сланік кедровы.

Самы высокі, Капракаўскі перавал, аўтобус хоць з цяжкасцю, але «узяў». За ім — даліна

(Працяг на стар. 6)



*Сопка Фестывальная з боку Індустрыяльнага.*

бывае. Проста паскоранымі тэмпамі прыдзецца адрабляць памылковую палітыку даснежаньскіх правадыроў у галіне жыллёвага будаўніцтва. Дзеля гэтага неабходна пераставіцца на новыя, больш сучасныя метады будаўніцтва. Першыя спробы ўжо праведзены ў пасёлку ля вуліцы Пяста: мантажнае будаўніцтва пры выкарыстанні шматгабарытных пліт і гатовых цэлых элементаў. Для патрэб такой тэхналогіі працуюць прадпрыемствы будаўляных матэрыялаў у Старасельцах і ў Элку. Іх прадукцыя забяспечыць будаўніцтву 54 тысячы кватэр у 1971—75 гадах.

Жыллёвыя спулдзельні дзейнічаюць цяпер у кожным павятовым цэнтры. Яшчэ ў гэтай пяцігодцы ахопяць яны некаторыя мястэчкі грамадаўскага характару: Міхалова, Заблудаў, Супрасль, Васількова і некаторыя іншыя.

У павятовых гарадах тэрмін чакання спулдзельчых «э-М-аў» шмат карацейшы. Часам ён раўняецца толькі часу будаўніцтва жылога спулдзельчага блёку.

Найлепш аднак загадзя падумаць аб памяшканні для сваіх дзяцей, якія ў будучыні маюць намер перасяліцца ў горад. Такая магчымасць ёсць. Проста кожны грамадзянін мае права запісацца ў кандыдаты на члена жыллёвай спулдзельні і накапляць неабходны ўзнос. Кандыдатам можа быць таксама вучань сярэдняй або вышэйшай школы. Час чакання будзе тады лічыцца ад моманту накаплення ўзносу, гэта значыць, ад моманту прыняцця ў члены.

Жыллёвыя спулдзельні не канчаюць сваёй дзейнасці на пастаўцы жылля. Яны стараюцца арганізаваць час адпачынку сваіх членаў і іх сем'яў, праводзяць шмат цікавых і карысных культурна-асветных мерапрыемстваў.

*В. Рудчык*

падтрымлівалі палітычны курс Сігізмунда, бо ўжо ў 1440 годзе ў Троках затаўклі гэтага князя на смерць. На гэты раз палец божы аказаўся бяссільны.

За ўсімі гэтымі падзеямі ў «Пашыранай хроніцы» змешчаны панегірычны твор — «Пахвала Вітаўту». Для праслаўлення гэтага князя аўтар часта ўжывае дасканалыя паэтычныя параўнанні і метафары.

У іншых эпізодах «Пашыранай хронікі», якія варта падкрэсліць, знаходзім інфармацыі аб бунце «чорных людзей» у Смаленску. Збунтаваны гарадскі люд пастанавіў «сагнаці сілаю з гораду» князя Андрэя Саковіча і паклікаць замест яго князя Юрыя Лугвеніевіча. Пад 1445 годам летапісец апісвае бітву войск Вялікага княства Літоўскага з войскам Маскоўскай Русі. Аўтар не скрывае сваёй радасці з прычыны разгрому маскоўскіх войск і ўзяцця вялікай колькасці палонных.

Не мала ў «Пашыранай хроніцы» звестак аб справах, не маючых агульнадзяржаўнага ці міжнароднага значэння. Летапісец гаворыць таксама аб падзеях мясцовых або аб прыродных з'явах.

Са сказанага відаць, што аўтар «Пашыранай хронікі» цікавіўся і праблемамі агульнарускімі, і справамі польскімі, і праблемамі рэгіянальнымі. Летапісец цвёрда стаяў на грунце інтарэсаў Вялікага княства Літоўскага, і таму жыццё гэтага дзяржаўнага арганізму прадстаўлена ў хроніцы найбольш поўна.

## 15 ГАДОЎ КАРЫСНАЙ ПРАЦЫ

Добраахвотная пажарная каманда (ОСП) у Старым Ляўкове, Гайнаўскага павета, дзейнічае ўжо 15 гадоў. Згуртоўвае яна ў сваіх радах 26 чалавек. Складаецца з трох секцый; ратаўнічай, агнетушыцельнай і рэзервовай, а таксама з двух маладзёжных каманд: жаночай і мужчынскай. Працай ляўкоўскай ОСП кіруе раённы начальнік Янка Адамюк (глядзі здымак). Пажарная каманда праводзіць практычныя заняткі і рыхтуецца да раённых спаборніцтваў. У мінулым годзе маладзёжная каманда прымала ўдзел у спаборніцтвах з нагоды Дня пажарніка і была ўзнагароджана дыпломамі.

Члены ОСП пабудавалі гараж, у якім зараз знаходзіцца самаход і супрацьпажарныя прылады. У будучыні яны намераны пабудаваць рамізу, у якой адбываліся б забавы і дзейнічаў бы клуб. Ужо гатова дакументацыя на яе пабудову. Варта дадаць, што члены стараляўкоўскай ОСП дапамагаюць у працы жаночай і мужчынскай камандам ОСП у суседняй вёсцы ў Ляшуках, а таксама кантралююць супрацьпажарныя басейны ў Новым Ляўкове і ў Ахрымах.

Найбольш актыўнымі пажарнікамі з'яўляюцца: Янка Адамюк, адзначаны бронзавым медалем «За заслугі для пажарнай справы», Фёдар Пташынскі, Аляксандр Рэент, Аляксандр Адамюк, Аляксей Харкевіч, Мікалай Пташынскі, Сяргей Бандарук сын Сяргея. Чацвёра з іх: Фёдар Пташынскі, Янка Адамюк, Аляксей Харкевіч і Аляксандр Адамюк, — атрымалі нядаўна з нагоды Дня пажарніка адзнакі «Прыкладны пажарнік».

*Тэкст і фота: Я. Цялушэцкі*



## § Кансультацыя ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: Ажаніўся я ў 1939 годзе. У 1947 годзе я прыехаў з сям'ёй з Савецкага Саюза ў Польшчу і ў замен за маёмасць, якая ў мяне там засталася, я атрымаў ад дзяржавы гаспадарку. Ці жонка мая мае права да гэтай гаспадаркі?

АДКАЗ: Маёмасць, якая была прыдбана ў часе шлюбнага жыцця, з'яўляецца супольнай уласнасцю мужа і жонкі. Гэта адносіцца таксама да нерухомай маёмасці, наданай дзяржавай у выніку зямельнай рэформы. Не мае значэння пры гэтым факт, што нерухомую маёмасць атрымалі вы за сваю асабістую маёмасць, якая засталася за мяжой у выніку рэпатрыяцыі.

З гэтага вынікае, што гаспадарка, якую вы атрымалі ад дзяржавы, з'яўляецца супольнай уласнасцю вашай і вашай жонкі.

*Адрэж па лініі, назначанай пунктірам, зрабі дзіркі ў месцы, вызначаным кружкамі і накожы старонкі на дроцікі або шнурочак.*

**• БІБЛІЯТЭЧКА „НІВЫ” • ВАСІЛЬ БЫКАЎ • ПРАКЛЯТАЯ ВЫШЫНЯ •**

25.

Вышаўшы з-за павароту траншэі, я адразу наткнуўся на іх. Тут быў недабудаваны, кінуты немцамі бліндаж — яма збоч ад траншэі, без даху і без дзвярэй, з чатырма бёрнамі-стаякамі ў кутках. У гэтай яме на шынялі ляжаў нехта, спавіты бінтамі, ля яго ў нагах сядзеў і курыў Ананьеў. Таксама хтось нерухома застыў ля галавы. Грыневіч з Піліпенкам маўкліва стаялі ў траншэі, ля іх прысланіўся да сцяны аўтаматчык з другога ўзвода Зайцаў. Згледзеўшы гэтага Зайцава, я міжвольна адчуў у сабе нешта нядобрае: чаму ён тут? Зараз жа з'явілася здагадка, ад якой крыўдліва зашчымела ў душы — усё ж я яшчэ быў у роце і нават яшчэ невядома, можа абышоўся б і без санбата. Аднак той, што ляжаў у доле, мяркуючы па ўсім, быў цяжка паранены, і я задаўшы ў сабе раптоўную прыкрасць, запытаў напаўголаса:

— Хто гэта?

Ананьеў падняў галаву.

— А, Васюкоў! Ну як?

— Ды нічога, — стрымана адказаў я. — у плячо вось...

— Магло быць горш, — сказаў камандзір роты. — Я дык падумаў — табе хана...

Падумаў, ну і хай! І так дзякуй, не кінуў, паклапаціўся. Што ж было надта тужыць пра гэта? І ўсё ж дакучлівая туга не міналася, засела недзе ў свядомасці і патроху занепакоена там ныла.

— Васюкоў, — слабым голасам паклікаў мяне паранены. Я падышоў бліжэй і ў змроку ледзьве пазнаў небараку — то быў Крывашыяў. — Васюкоў... і ты таксама?

— Папала. Толькі і мяне лёгка, — сказаў я з трошкі робленай бадзёрасцю ў голасе і чамусьці гучней, чым было трэба.

— А я вось... — выдыхнуў, не дагаварыўшы, Крывашыяў. Ананьеў устаў і паглядзеў па-над бруствeрам.

— Нічога. Будзеш жыць. Не такія выжывалі.

Не, тут жа падумаў я, наўрад ці яму прыйдзецца выжыць. Не ведаю чаму, але я адразу зразумеў, што Крывашыяў на гэтым свеце ўжо не жыхар. Побач ціха ўздыхнуў той, што сядзеў у глыбіні бліндажа. Прыгледзеўшыся, я пазнаў у ім Гумянюка. І тады прыпомнілася, што яны з Крывашыявым землякі, здаецца, з аднае вёскі — калісьці ў адной камандзе і разам мы прыйшлі ў роту. Ад тае каманды засталося, мабыць, чалавек дзесяць, а цяпер будзе яшчэ на аднаго меней.

— Ну, дзе той разгільдзяй Цвяткоў? — вылаяўся камроты. — Што гэта за гадства такое!

— Цвяткоў у бліндажы, — сказаў я. — Там трое параненых.

— Цяжка?

— Лёгка, здаецца.

— Лёгка, лёгка... Тут во гэтага ратаваць трэба. А то перавязаў і кінуў. Ну, пачакай: прыйдзе — я яму дам разгон!

— Пасля, — ціха сказаў з траншэі Грыневіч.

Ананьеў ускінуў голаў.

27.

— Узрадваўся: «гатоў»! Я без цябе, дурня, ведаў — будзе гатоў! Але ён не павінен быў ведаць. Паняў? Ён павінен на нас спадзявацца, што аб ім клапоцяцца. Ён жа чалавек, а не сабака, ядроная вош!..

Гуманюк тым часам, мабыць, не верачы санінструктару, кінуўся да земляка. Стоячы на каленях, ён затармашыў яго, заштурхаў, пасля неяк адразу апусціў рукі і крыўдліва, як дзіця, заплакаў.

Цвяткоў зацята маўчаў, мусіць, не прызнаючы сябе вінаватым. Ананьеў засунуў рукі ў кішэні і таксама змоўк. Сварка неяк адразу страціла свой сэнс. Сэрца маё жаласна затрымцела ў грудзях, нейкім чынам і я адразу адчуў сваю еднасць з гэтым небаракам, нібы ён быў маім братам. Але мяне даймаў і другі боль — на сцюжы дужа разбалелася плячо і ўся рука аж да пазногцяў на пальцах. Трэба было ісці, а я ў нейкім тупым змярцвенні ціха стаяў над Крывашыявым.

— Ладна, — падабрэла сказаў у цішы Ананьеў. — Хай паляжыць да раніцы. Прыйдзе падвода — адвязем, пахаваем.

Ён выйшаў з бліндажа і пайшоў у тыл. За ім скіравалі Грыневіч, Зайцаў і, крыху счакаўшы, Цвяткоў. Мне камроты нічога не сказаў, і я невядома чаго застаўся тут з Гуманюком і прыціхлым Піліпенкам.

Я ледзьве стрымліваў сябе ад прыкрасці. Мала было раны, дык яшчэ гэты Ананьеў — я да яго ішоў, шукаў яго, спадзеючыся на хай сабе кароценькую ўвагу, звычайную пры расставанні, а тут, на табе, — новы ардынарац! І камроты ні слова не сказаў мне, быццам ужо назаўсёды выкрасліў мяне са свае памяці і свае роты, нібы я ніколі і не клапаціўся пра яго ўтулак, не падшываў яму падкаўнерыкі, не бегаў па абед, не гібеў з ім усю зіму ў баях!

А зрэшты — ці варта крыўдаваць на чалавека, у якога людзі, баявая задача, якому дапякае клопат, каб утрымаць вышыню. Да таго ж, яму заўжды патрэбны чалавек, каб бегаць, выклікаць камандзіраў: калі тут разводзіць сантыменты з параненым ардынарцам? Яму быў патрэбны здаровы. Зайцаў някепскі баец, я ведаў яго і разумеў Ананьева, аднак ад таго не рабілася лягчэй.

Але што ж было рабіць тут? Сядзець у гэтай яме побач з нябожчыкам Крывашыявым і мёрзнуць? Ісці з роты не мела сэнсу, можна было лёгка трапіць у рукі да немцаў, ды і не хапала сілы валачыся па такой гразі добрых дваццаць кіламетраў да медсамбата. Значыць, трэба шукаць нейкі прытулак да раніцы. Кепска, што апроч камандзірскага, болей бліндажоў немцы, здаецца, не збудавалі, вяртацца ж туды мне не хацелася — хай там цяпер гаспадарыць Зайцаў. Прыйдзецца, мабыць, ісці ў другі ўзвод, да Ваніна. Ён мяне прыме.

— Дзе другі ўзвод? — запытаў я Піліпенку.

— Далей па траншэі.

Я памалу пайшоў, куды паказваў Піліпенка, і ён таксама чамусьці паплёўся следам. Неўзабаве мы набрылі

26.

— Не ўжо. Без адкладу. Я яго навучу, як радавога байца любіць. А не — дык к чортавай матары: аўтамат у рукі і — у ланцуг!

Паранены слаба заварушыўся ў доле.

— Таварыш старшы лейтэнант... Не трэба ўжо. Што ён...

— Як гэта не трэба, Крывашыяў? Кінь ты панікаваць. Трапіш у шпіталь, у цяпло, на белыя прасцінкі — ураз палепшаеш. Дактары, яны цяпер такія, — налаўчыліся за вайну, — разарванага на кавалкі сшыюць, залечаць — будзь здароў... Яшчэ лепшы атрымаецца. Сам прайшоў праз іхнія рукі, знаю.

Гумянюк трудна, працяжна ўздыхнуў.

— Я як чуў, — гаротна сказаў ён. — Малодшы лейтэнант як клікнуў, ёкнула маё сэрца. То былі заўжды разам і нічога. А тут адлучыўся, і вось...

Да яго ніхто не азваўся, усе і без таго перажывалі тужлівую непапраўнасць гэтай бяды. Грыневіч з Піліпенкам маўкліва стаялі ў змрочнай траншэі. Ананьеў, услухаўся і ціха вылаяўся.

— Ну, я дачакаюся ці не?

Аднак па траншэі ўжо ішлі — неўзабаве хтось спыніўся на ўваходзе ў яму-бліндаж, і да параненага пралез з сумкай на жываце Цвяткоў. Ананьеў пагрозліва маўчаў. Цвяткоў яго, мусіць, не адразу заўважыў і трошкі прыпазніўся з дакладам:

Сержант Цвяткоў па вашаму загаду...

— Ты чаму кінуў параненага? — уладарна абарваў яго камандзір роты.

— Я перавязаў.

— Гэта і ўсё?

— А што яшчэ? Ён безнадзейны.

Ананьеў рэзка адхіснуўся ад сцяны.

— Я табе вось як дзвіну! Па тваёй ідыёцкай галаве! Тады пазнаеш, хто безнадзейны! — з лютай прыціхласцю пагразіў ён санінструктару.

Цвяткоў адразу пакрыўдзіўся.

— Што я сляпы, ці што? У яго ж тры пранікаючыя ў брушную поласць, так? Ды яшчэ грудзі навылёт...

— Маўчаць! — здушаным ад гневу голасам крыкнуў камроты. — Каб мне ні слова! Ён павінен жыць!

— Быццам я супраць. Хай жыве! Але ж... Во, глядзіце!

Цвяткоў ступіў да параненага і разгарнуў ягоны шынэлак. Затым нешта памацаў там, насцярожыўся, схапіў Крывашыява за руку і, чагосьне знайшоўшы, хуценька схіліўся вухам да накрыж забінтаваных грудзей.

— Ну во! Я ж гаварыў...

— Не можа быць! — занепакоена выйшаў з траншэі Грыневіч. — Толькі ж размаўляў тут...

Цвяткоў рашуча выпрастаўся і саўтануў назад сумку.

— Усё. Гатоў!.. — упэўнена аб'явіў ён і з усведамленнем свае праваты адвярнуўся ўбок.

Ананьеў ускіпеў:

---

28.

на нейкі траншэйны адростак-тупічок, у якім на святлявым фоне неба адзінока тырчала галава ў касцы. Тупічок гэты, здаецца, сама далей выдаваўся ў поле — мусіць, то быў недакапаны ход у нямецкі тыл. Піліпенка гукнуў:

— Чумак, цэ ты?

— Ага, я, таварыш старшына.

— Ну, што чуваты?

Мы падышлі бліжэй, Чумак зважліва адступіў перад камандзірам узвода. На брустверы стаяў нямецкі МГ з закладзенай у прыёмнік стужкай. Пачуўшы нас, у доле заварушыўся яшчэ нехта, мабыць, кулямётчык. Калі ён устаў, дык аказалася, што гэта баец Шнэйдар. Пазнаўшы камандзіра ўзвода, ён талкова, без залішняе паспешлівасці вытлумачыў:

— Спачатку стралялі. Вунь з той пляміны. Яр там ці балота якое — чорт яго ведае. Біў кулямёт. Пасля перастаў. Чалавек пяць перабеглі па краі і схаваліся. Цяпер ціха.

Мы маўкліва паўзіраліся ў той бок. У твары дзьмуў рэзкі сцюдзёны вецер, прабірала дрыготка. Параненая мая рука здорава стыла пад незашпіленым мокрым шынялём, асабліва пальцы, паварушыць імі было вельмі балюча.

Піліпенка, падумаўшы, сказаў:

— Нічарта. Воны не дурні в рові сыдзіць. Драпанулы на станцыю. Заўтра падапруць, канэшню.

— Заўтра дадуць прыкурыць... — заклапочана пагадзіўся Шнэйдар.

— Можэ заўтра, а можэ і сёгодня, — нечакана сказаў Піліпенка. — Не здумайтэ спаты. Гранаты хоць е?

Шнэйдар памацаў кішэні.

— Ёсць адна.

— А ў тэбэ, Чумак?

— Ды няма.

— Хіба вы ўсі пакідалы?

— Пакідаў! — сказаў Шнэйдар. — Дзе ён іх пакідаў? Толькі ў траншэі ўзвод дагнаў.

Чумак маўкліва таптаўся ў доле.

— Мо вам не давалы?

Баец маўчаў.

Піліпенка ўпіўся ў яго настырным, учэпістым позіркам. Выгляд у Чумака быў такі вінавата-няшчасны, што я не вытрымаў і дастаў апошнюю сваю «лімонку». Усё роўна мне яна ўжо была без патрэбы.

— Во, бярыце маю.

Чумак моўчкі і, як здалося, не дужа рашуча ўзяў яе, надта ўжо беражна паклаў у кішэню.

— Колькі вам год? — запытаў я.

— Мне? А пяцьдзесят.

— Ого! Дык як жа вас узялі?

— Брэша він! Якіх пяцьдзесят? — усумніўся Піліпенка. — Міні сорак шість. Так што — він старэйшый?

---

(Працяг са стар. 5)

**ЗЯМЛЯ І ЛЮДЗІ**

# ЗА „БАХТ-БАРІ“

рэчкі Омсукчан, а дакладней, па эвенску — Омчикчан, што значыць проста Далінка. Злева ідуць горы Ансунчанскай грады. У глыбокіх распадках — капальні волава (асноўнага багацця раёна), а ля іх — сучасныя руднічныя пасёлкі з двухпавярховых дамоў. Ёсць у раёне каменны вугаль, перспектывы на золата. Сам Ансунчан вельмі хутка расце і забудоўваецца навейшымі будынкамі, ня-



*Малюнак Эвдэ Гурый.*

гледзячы на вечную мерзлату, тут будуюць нават чатырохпавярховыя дамы. Ансунчан — тыповы раённы цэнтр, тыповы вялікі пасёлак, добраўпарадкаваны, з усімі атрыбутамі культуры. Ён да таго добраўпарадкаваны, што няма ніякай «паўночнай рамантыкі і экзотыкі».

За два гады жыцця ў ім мне нават аленя не давялося пабачыць (акрамя, як мяса ў магазіне). І мясцовых жыхароў — эвенаў амаль нябачна — па-першае, мала іх, а па-другое, яны вельмі сціплыя і ў горадзе апранаюцца вельмі модна і добра — я нават баяўся, што не пабачу нацыянальнай вопраткі.

Але вось давялося мне споў- пад крылом — прытуліліся з краю шырокай даліны, акружанай колам высачэзных гор і рэкамі. Левы Кедон і проста Кедон. Пры бліжэйшым знаёмстве пасёлак аказаўся якраз тым, што я шукаў: паўтара дзесятка будынкаў (з якіх палавіна — службовыя), навокал — сотні кіламетраў незаселеных прастораў. Але ў пасёлку ёсць усё неабходнае для жыцця, магазін, пякарня, клуб, гасцініца, маленькая электрастанцыя. З астатнім светам звязвае ў асноўным авіяцыя, калі ж надвор'е нялётнае — радыё. Наогул тыповы тундрова-таёжны пасёлачак, які абслугоўвае аленяводаў і паляўнічых, качуючых у тайзе. Прырода тут цудоўная, хай не такая багатая (побач жа Палярны круг, Чукотка), але затое некранутая чалавекам і вялікія прасторы. Калі глядзіш зімой, то зямля ўсюды здаецца чыстай, гладкай, склоны сопак — таксама безжыццёвыя, роўныя, толькі змардаваныя марозным ветрам лістоўніцы чарнеюць пад снежнай гладдзю..., ды за пакрытымі тайгой пласкаўзвышшамі блакітнымі крышталямі свецяцца далёкія горы. Краявід сам нібы прасякнуты холадам, сапраўднае лонданаўскае «белое безмолвие».

Але прыйшла вясна — і «белого безмолвия» як не было. Гоман птушак над азёрамі, шум вады (між іншым, ужо прыляцелі вестуны вясны — пукачкі). А там дзе была роўнядзь снежная — аказаліся непралазныя бярозавыя хмызнякі, зараснікі вечназялёных багуноў і рададэндронаў. Недзе праз тыдзень пасля таго, як снег згоніць, пачынаецца ней-



*Эвенка з часопісам.*

мяцёлкамі, падушкамі кветак. Нават голыя скалы прыхарошваюцца пярэстымі імхамі і лішайнікамі.

І, нарэшце, — людзі тайгі — эвены. Па словах многіх вучоных (і простых смяротных), самы сціплы і дабрадушны народ сярод народаў Поўначы (хаця і астатнія славяцца гасціннасцю, зычлівасцю). Ад сябе магу адзначыць, што маюць адменны мастацкі густ, вельмі працавітыя — жанчыну-эвенку амаль ніколі не ўбачыш нічога не робячай — заўсёды ў руках шыццё. Амаль усе рэчы абыходу ўпрыгожаны цудоўнымі арнаментамі — з бісеру вышыўка і мазаіка з футра чорнага і белага. Цяпер няма ўжо і непісьменных — усе рэгулярна атрымліваюць шмат перыёдыкі, чытаюць літаратуру мастацкую (для забеспячэння аленяводаў кіно і кніг, ды наогул за культуру адказваюць працаўнікі Чырвонай ярангі). У кожнай палатцы пастухоў ёсць «Спідола» — і як бы далёка ні качавалі пастухі, у якой глушы ні стаялі б палаткі — а ўсё-роўна яны жывуць жыццём планеты, краіны ўсёй. Жывуць пастухі ў палатках з жалезнымі печкамі, зімой ставяць іх дзе ёсць дровы, летам — дзе ёсць чыстая вада. Раней жылі ў юртах — дзю. Калі я папрасіў Эвдэ Гурый расказаць, як выглядала «дзю», то яна намалявала малю-



*Альбінка Оглу — цыганачка з племені Крынуря.*



*Генюсь Марцінкевіч*



*Паўлік Гарпані.*

ніць мару — паехаць працаваць у самы далёкі куток раёна — на ўчастак Кедон аленяводчага саўгаса «Буксунда». Да Кедона — лёту на самалёце амаль дзве гадзіны. Пад крылом — бясконцыя сопкі з тайгой у далінах шматлікіх рэк і рэчак. Але вось самалёт ідзе на пасадку. Прамільгнулі домікі

кае проста выбуховае квітненне ўсялякіх раслін. Часам самой расліны яшчэ і няма, а ўжо кветка на тонкай сцяблінцы аб'явілася (а расліна ўся вырастае летам). Голыя, здаваўшыеся проста крушнямі склоны сопак пакрываюцца дыванкамі,

нак. Мяне здзівіла, што яна, да гэтага не прабаваўшая малявацць, зрабіла такі малюнак стойбішча (скапіраваў малюнак да апошняй рыскі).

Край гэты прыгожы, вельмі багаты. І каб распрацоўваць гэтыя багацці, прыехалі людзі з усёй краіны. Сустрэнеш тут і татараў, і армян, і рускіх і удмуртаў; нават бацькі малой Альбіны Оглу — цыгане племені Крынуря знайшлі тут сваё «бахт-барі» — шчасце вялікае, за якім праехалі ад Крыма да Калымы (ды тут і аселі). Яны, цыганка Альбіна, беларус Генюсь Марцінкевіч, не гаворачы ўжо аб эвенчыку Паўліку Гарпані — карэнныя жыхары гэтага краю і будучыня яго будзе ў іх руках.



*Пасёлак Кедон.*

*Сцяпан Казлоўскі*




# СКАНДАЛ З ПАСТУХОМ

Вярталіся гарадоцкія жанчынкі з цэнтральнага агляду «Беларуская песня — 71» у цудоўным настроі. Проста гарэлі нейкім таямнічым агнём. Ад чаго ж гэта? Што «схапілі» усе магчымыя ўзнагароды? Дык гэта ім не ўпершыню. Тут нешта здарылася куды больш нештодзённае. Інакш так па-змоўніцку не перашэптваліся б.

Тайна раскрылася ў Гарадку, калі нашы жанчынкі, высыпаўшыся з аўтобуса, тут жа адкрылі мітынг. Выявілася, што прычынай іх узнёслага настрою было адкрыццё, якое яны зрабілі на аглядзе. У песні «Беласточчына» (не блытаць са Шведам), якую заліхвацка выконвалі хлопцы з Вілінава, прагучалі словы, якія і запалілі гарадоцкіх жанчын таямнічым агнём. Не, вы памыляецеся, хлопцы спявалі зусім не аб тым, аб чым вы падумалі. Песня была мясцовая, можна сказаць, абразок Вілінава. І ўвагу гарадоцкіх прыгажунь прыкавала зусім празаічная дэталь.

«Там удалі пастух пасе каровы», між іншым, інфармавала песня. Між іншым... Гэты факт падняў на ногі ўвесь Гарадок. А прастадушныя спевакі з Вілінава, якія па сваёй наіўнасці эдрадзілі гэты факт, нават не падазравалі, якія хмары збіраюцца над роднай вёскай. Бо гарадчане пастанавілі перакупіць вілінаўскага пастуха. А кожны ведае, што значыць у наш час пастух. Яго грамадская роля куды большая, напрыклад, за чэмпіёна па боксу ці футбольную зорку. А на гарадоцкім мітынгу якраз і падалі аргументы з жыцця спартыўных сфераў. Ставіліся ў прыклад шлёнскія і варшаўскія спартыўныя клубы, якія паспяхова прымяняюць падобны сродак дзеля папаўнення сваіх рэзерваў беластоцкімі талентамі.

— Чаму б і нам, — даказвалі, — не прымяніць выпрабаванага спосабу. Вілінаўскі пастух, праўда, не элцкі баксёр — больш таргавацца будзе, але куды Вілінаву да Гарадка. Перацягнем.

І так праблема, якая столькі год, нягледзячы на намаганні, зганяла сон з вачэй гарадоцкіх гаспадароў, была вырашана. На другі дзень дэлегацыя Гарадка, узброеная важкімі аргументамі, адправілася ў Сямяцічкі павет шукаць Вілінава і таго амаль ідылічнага пастуха.

Знаёмасць гарадоцкіх жанчын псіхікі народных творцаў, якія не церпяць непраўдзівасці, трыумфавала. Пастух не толькі быў у песні. І супрацьдзеянне героя было кароткае. Аргументы Гарадка былі пераканаўчыя. І вілінаўскі пастух, як вы ўжо здагадаліся, пасе гарадоцкія кароўкі. А Вілінаву засталася песня, у якой славіцца пастух, які «ўдалі пасе каровы». Цяпер ён сапраўды «ўдалі».

Але можам Вілінава пацешыць: ходзяць чуткі, што гарадоцкага (цяпер) пастуха перацягне Беласток.

А сваёй дарогай, якія ж вы, вілінаўскія хлопцы, былі наіўныя!




## ГЭТА НЕ ПА-МОЙМУ

— Пятрусь, колькі будзе тры разы два?

— Пяць.

— Значыць, па-твойму, будзе пяць?

— Не, гэта не па-мойму. Гэта мне так Васька падказаў.

## НА ГАЛАВЕ ХАДЗІЎ

— Ты чуў, твой хлопец, кажуць, у школе на галаве хадзіў?

— Не можа быць?

— Чаму?

— А таму, суседзе, што я не паспяваю яму абутку купляць.

## ТАК ЛЕПШ

— Тату, памажы мне задачку рашыць.

— А ты ўжо над ёю думаў?

— Думаў.

— Ну, і што прыдумаў?

— Што лепш або спытаць у цябе, або ў Дзмітра спісаць.



## НЕ ЗНОЙДЗЕШ КАНЦА

— Віця, цябе маці б'е? — пытае суседка.

— Б'е! — адказвае Віця.

— А чаго яна б'е?

— Бо я не слухаю.

— А чаго ты не слухаеш?

— А таго, што яна мяне б'е.

## Галаваломка



Нарысуйце гэту фігуру, не адрываючы алоўка ад паперы і не праходзячы ім двойчы па адной і той жа самай лініі.

*

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара:*

| | | | |
|---|---|---|---|
| 2 | 9 | 5 | 6 |
| 15 | 7 | 16 | 3 |
| 12 | 14 | 10 | 11 |
| 8 | 4 | 1 | 13 |

## РОЗНІЦА

Хлопчык пытаецца ў бацькі, якая розніца паміж вінтоўкай і аўтаматам?

— Ведаеш, гэта тое самае, калі гавару я і калі гаворыць наша мама.

## ПЫТАЛІ

— Янка, — кажа бацька, — цябе пыталі сёння ў школе?

— Пыталі...

— А што...

— Ды пыталі, чаму вы на бацькоўскія сходы не ходзіце...



— *Малое задужа голасна плача.*

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Валі Гадомскай з Кожына, Бельскага павета, змяшчаем песню:

# ПРОВОДЫ

КРАСНОАРМЕЙСКАЯ ПЕСНЯ

*Слова: Демьян Бедный*

Как родная мать меня
Провожала,
Как тут вся моя родня
Набежала:

«А куда ж ты, паренек?
А куда ты?
Не ходил бы ты, Ванёк,
Да в солдаты!

В Красной Армии штыки,
Чай, найдутся,
Без тебя большевики
Обойдутся.

Поневоле ты идёшь?
Аль с охоты?
Ваня, Ваня пропадёшь
Ни за что ты.

Мать, страдая по тебе,
Поседела,
Эвон в поле и в избе
Сколько дела!

Как дела теперь пошли:
Любо-мило!
Сколько сразу нам земли
Привалило!

Утесненй прежних нет
И в помине.
Лучше б ты женился, свет,
На Арине.

С молодой бы жил женой,
Не ленился!»
Тут я матери родной
Поклонился.

Поклонился всей родне
У порога:
«Не скулите вы по мне,
Ради бога.

Будь такие все, как вы,
Ротозеи,
Что б осталось от Москвы,
От Расеи?

Всё пошло б на старый
лад,
На недолю.
Взяли б вновь от нас
назад
Землю, волю;

Сел бы барин на земле,
Злым Малютой,
Мы б завыли в кабале
Самой лютой.

А иду я не на пляс,
На пирушку,
Покидаючи на вас
Мать-старушку:

С Красной Армией пойду
Я походом,
Смертный бой я поведу
С барским сбродом.

Что с попом, что
с кулаком —
Вся беседа:
В брюхо толстое штыком
Мироеда!

Не сдаёшся? Помирай,
Шут с тобою!
Будет нам милее рай,
Взятый с бою, —

Не кровавый пьяный рай
Мироедский, —
Русь родная, вольный
край,
Край советский!

## СТЫХІІ

Настаўніца: — Скажы, Яцак, якія ты ведаеш стыхіі?

Вучань: — Агонь, вада, паветра і гарэлка.

Настаўніца: — А чаму гарэлка?

Вучань: — А таму, што калі татка нап'ецца, мама заўсёды гаворыць, што ён у сваёй стыхіі.

## ПАПРАВІЎСЯ

Выхавацельніца дзіцячага сада паскардзілася бацьку, што яго сын сваволіць, а калі яго ставіць у кут — уцякае.

Бацька накрычаў на сына. На другі дзень хлопчык радасна заявіў дома:

— Тату, я цяпер добра сябе вяду. Сёння цэлы дзень з кутка не выходзіў!

## ШТО АТРЫМАЕ

— Владка, калі табе мама дасць чатыры яблыкі, два з якіх ты павінна будзеш аддаць сястрычцы, што ты атрымаеш сама?

— Чатыры яблыкі і два плескачы ад таты.

## ДЫСЦЫПЛІНАВАНЫЯ ДЗЕЦІ

Маці наведала сваю дачушку ў гарцэрскім лагеры.

— Ну, як ты жывеш тут, Галечка?

— Нічога, мамка, гуляем ціхенька.

— А чаму ціхенька?

— А наша важатая днём спіць — баімся разбудзіць.



— *Я табе казаў: не стукніся галавою аб дно!*

## ЧАМУ СПАЗНІЎСЯ

— Ты чаму спазніўся ў школу?

— Я хацеў пайсці на рыбу, але бацька не дазволіў.

— Твой бацька правільна зрабіў. Ён, напэўна, вытлумачыў табе, чаму ты павінен ісці ў школу, а не вудзіць рыбу?

— Так, ён сказаў, што чарвякоў мала і на дваіх не хопіць...

# Курёзы

## КОШКА-АРХЕОЛАГ

Аўтарам незвычайнага археалагічнага адкрыцця стала... простая вясковая кошка Данута. Гуляючы на полі свайго гаспадара Юзэфа Масіка, яна ўпала ў яму. Перапалохаўшыся, кошка замяўкала. Гаспадар, які з'явіўся на выручку ўбачыў, што Данута сядзіць на нейкіх чарапках, падобных на бітыя гаршкі, толькі нейкія дзіўныя. На ўсялякі выпадак Масік паведаміў пра іх адміністрацыі акругавага музея ў Зялёнай Гуры. Археолагі, якія прыбылі на месца ўстанавілі, што знойдзеныя ў яме чарапкі — асколкі посуда IV—V стагоддзя нашай эры.

## ЯКІМ ВІНОМ ІХ ЧАСТАВАЛІ?

Канадскі міністр замежных спраў Мітчэл Шарп запрасіў 40 відных палітычных дзеячоў і бізнесменаў на афіцыяльную вячэру. За сталом гутарка ішла аб эканамічных санкцыях, якія Канада магла б прымяніць супраць расісцкага рэжыму ў ПАР, як таго патрабуюць рашэнні ААН і голас сусветнай прагрэсіўнай грамадскасці. Але вось афіцыянты пачалі наліваць у бакалы віно. Адзін з запрошаных, глянуўшы на бутэльку, сказаў, што віно імпартавана з... ПАР. Міністр галантна папрасіў у гасцей прабачэння — і, не міргнуўшы вокам прапанаваў напоўніць бакалы іншым віном.

## ЧАРАТОВАЕ ВЫХАВАННЕ

Заходнегерманская газета «Нэйес герыцйтунг» змясціла такую аб'яву: «Чаратовыя розгі для школ і хатняга ўжытку бацькі і вучні могуць набыць у спецыяльным магазіне. Пішыце да затрабавання, шыфр 301/16».




*Плывучы па плыні, не кажы, што змагаешся з ветрам.*